## Значэнне асобы Алеся Адамовіча дваццатым стагоддзем не вычэрпваецца

Беларускую літаратуру ва ўсім свеце ведаюць па творчасці нямногіх пісьменнікаў. Імя Алеся Адамовіча ў гэтым спісе займае адно з першых месцаў. Яго творы на ваенную тэму, асабліва прысвечаныя даследаванню ідэалогіі фашызму, а таксама страсныя артыкулы ў абарону людзей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, яго актыўная грамадзянская пазіцыя барацьбіта за дэмакратычныя ідэалы пакінулі прыкметны след у гісторыі дваццатага стагоддзя. У гэтым годзе Алесю Адамовічу споўнілася б семдзесят гадоў. Гэтай даце быў прысвечаны вечар у Доме літаратара.

Аб такім чалавеку, якім быў Алесь Адамовіч, усё сказаць за некалькі гадзін, вядома, было немагчыма. Сябры пісьменніка, якія выступілі на вечары, а іх у яго было шмат і сярод літаратараў, і сярод кінематаграфістаў, і сярод навуковай інтэлігенцыі, перш за ўсё ўспаміналі прынцыповасць, сумленнасць, глыбокую эрудыцыю і бескампрамісную высокамаральную пазіцыю Адамовіча ў адстойванні правоў простага чалавека.

Перакананні Алеся Адамовіча яскрава праяўляліся не толькі ў яго публіцыстыцы, але і ў літаратурнай і навуковай творчасці. Ён быў адным з аўтараў дакументальных кніг “Я з вогненнай вёскі...”, “Блакадная кніга”, “Карнікі”, “Хатынская аповесць”, сцэнарыя мастацкага фільма “Ідзі і глядзі”. Гэта толькі маленькая часцінка творчай спадчыны пісьменніка. Беларускае літаратуразнаўства цяжка ўявіць без фундаментальных аналітычных і інтэлектуальных даследаванняў Алеся Адамовіча прозы Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага, Якуба Коласа, Івана Мележа.

Усё напісанае Алесем Адамовічам і сёння вельмі цікавіць людзей, яго паклоннікаў з гадамі не становіцца меней. А лепшае пацвярджэнне таго, што слова пісьменніка не забудзецца і ў наступным стагоддзі, — вялікая колькасць маладых людзей на вечары яго памяці.

**Вольга ШЧАДРЫНА,**

**Люстэрка**

## Менш ездзім, радзей пішам пісьмы. Чаму?

Дарагоўля на транспарце і ў сферы паштовых паслуг прыводзіць да таго, што ўсё радзей сустракаюцца і нават перапісваюцца самыя блізкія людзі. Сыны не часта наведваюць старых бацькоў, пенсіянеры не ў стане пазваніць у горад і распытаць пра ўнукаў. Рвуцца альбо зводзяцца да мінімуму тыя духоўныя ніці, якія надаюць моц кожнаму чалавеку.

Гэта цяжкая духоўная хвароба яскрава прасочваецца ў лічбах статыстыкі. Так, толькі ў верасні гэтага года закрыты 12 прыгарадных, 14 міжгародніх і 2 міжнародныя маршруты. Тарыфы на перавозкі пасажыраў у верасні 1997 года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага, павялічыліся ў 1,6 раза, у тым ліку паветраным транспартам — у 1,7 раза, чыгуначным — у 2,1 раза, аўтобусным і прыгарадным — у 1,9 раза.

Падаражэнне паслуг не прынесла палёгкі транспартнікам. Калі ў студзені — жніўні 1996 года на транспарце былі 33 стратныя прадпрыемствы, дык сёлета — 45.

Такі ж невясёлы малюнак назіраецца і ў сферы паслуг сувязі і паштовых паслуг. Сёлета ў верасні ў параўнанні з вераснем 1996 года тарыфы на паслугі сувязі павялічыліся на 24%, у тым ліку на паслугі паштовай сувязі — у 1,8 раза, міжгародняй тэлефоннай сувязі — на 27,5%, плата за карыстанне хатнім тэлефонам узрасла на 11,1%.

У выніку сёлета за дзевяць месяцаў у параўнанні з такім жа перыядам 1996 года людзі паслалі пісем, паштовак і бандэроляў на 11% меней, пасылак — на 13%, тэлеграм — на 15,4% меней.

Ад нас адбіраюць не толькі звычайную прадуктовую ежу, але і духоўную.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Салідарныя дзеянні прафсаюзаў здольны пераламаць негатыўныя тэндэнцыі ў прамысловасці

Патрабаванні стварыць спрыяльныя ўмовы для адраджэння радыеэлектроннай прамысловасці Беларусі прагучалі на пашыраным пленуме рэспубліканскага Савета прафсаюза работнікаў галіны, які адбыўся 22 кастрычніка. Яго ўдзельнікі з трывогай канстатавалі, што становішча ў некалі перадавой сферы вытворчасці краіны сёння вельмі цяжкае.

Прафсаюзныя актывісты лічаць, што неабходна тэрміновае ўмяшанне дзяржавы, каб у радыёэлектроніцы былі створаны патрэбныя ўмовы для стабільнай работы прадпрыемстваў, павелічэння заработнай платы. Трывогу прафсаюзаў выклікае і тая акалічнасць, што ў поўным аб’ёме не выконваюцца як галіновае тарыфнае пагадненне, падпісанае кіраўніцтвам галіны, так і дагаворы, заключаныя паміж адміністрацыяй і працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў.

Пленум прыняў рашэнне звярнуцца да міністраў эканомікі і фінансаў У.Шымава і М.Корбута, старшыняў Дзяржаўнага падатковага камітэта і праўлення Нацыянальнага банка М.Дземчука і Г.Алейнікава з просьбай не пазней кастрычніка ўзгадніць у поўным аб’ёме прапановы міжведамаснай камісіі па аказанню дзяржаўнай падтрымкі канверсійным прадпрыемствам і арганізацыям радыёэлектроннай прамысловасці.

Калі да канца кастрычніка лёс галіны на дзяржаўным узроўні не будзе вырашаны, то рэспубліканскі Савет прафсаюза работнікаў радыёэлектронікі пакідае за сабой права на правядзенне ў снежні агульнарэспубліканскай галіновай папераджальнай забастоўкі. А пакуль пленум даручыў каардынацыйнаму савету распрацаваць комплекс мер, здольных прымусіць улады сур’ёзна заняцца праблемамі радыёэлектронікі.

Акрамя таго, пленум рэкамендаваў Савету прафсаюза звярнуцца да Федэрацыі прафсаюзаў беларускай, Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў і падобных прафсаюзаў краін СНД, далёкага замежжа, а таксама ў Міжнародную арганізацыю працы з просьбай аб салідарнай падтрымцы сваіх патрабаванняў і дзеянняў.

**Валянціна МЕНШЫКАВА.**

**Віншуем!**

## Ордэн для алімпійскай чэмпіёнкі

Чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка па фехтаванні на рапірах Алена Дзмітрыеўна Бялова, якая працуе цяпер загадчыцай кафедры педагогікі і псіхалогіі Акадэміі фізічнага выхавання і спорту, за высокія спартыўныя дасягненні, вялікі асабісты ўклад у развіццё фізічнай культуры і спорту ўзнагароджана ордэнам Айчыны трэцяй ступені. Указ аб узнагароджанні падпісаны кіраўніком дзяржавы 21 кастрычніка.

Атрымае ўзнагароду і яе калега па педагагічнай рабоце выкладчык кафедры гімнастыкі Акадэміі М.І.Цэйцін. Медалём “За працоўныя заслугі” адзначаны вялікі ўклад Міхаіла Ільіча ў распрацоўку новых вучэбных праграм па акрабатыцы і падрыхтоўку спартсменаў высокага класа.

**БелТА.**

# Фарбы надзеі

### Дакументальна-мастацкая выстава, прысвечаная памяці Касцюшкі, пачынае свой “шлях па Мінску”

Мы паведамлялі ўжо аб яе ўрачыстым адкрыцці ў сталічным мастацкім каледжы. Хутка яе экспанаты пераедуць у кінатэатр “Кастрычнік”, тэатры Янкі Купалы, юнага гледача, іншыя месцы. Улічваючы вялікую цікавасць чытачоў да выставы, іх жаданне болей даведацца пра яе, мы папрасілі расказаць аб тым, як яна рыхтавалася, **старшыню праўлення дзіцяча-юнацкай творчай асацыяцыі Генадзя Хлабыстова.** Бо менавіта гэты юнацкі калектыў у асноўным і здзейсніў задуму аб наладжванні важнай выставы, прысвечанай памяці нашага славутага земляка.

Асацыяцыя маладая. Генадзь Хлабыстоў паведаміў, што яна ўтворана сёлета і зарэгістравана 23 чэрвеня. Яе мэта — стварэнне ўмоў для развіцця дзіцяча-юнацкай мастацкай творчасці і яе прапаганды. Выстава, прысвечаная памяці Касцюшкі, — першая яе работа.

Найперш выканана вялікая праца па зборы матэрыялаў аб жыцці Касцюшкі ў Польшчы, ЗША, Францыі, Швейцарыі. Пры гэтым добрую падтрымку аказалі пасольствы названых краін, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Томаш Нягодзіш. Дзякуючы намаганням саветніка пасольства Францыі Сержа Лаўрофа, з яго краіны атрыманы архіўныя матэрыялы, звязаныя з Касцюшкам і дзеячамі Французскай рэвалюцыі.

Дакументальная частка экспазіцыі яшчэ папаўняецца. Чакаюцца дакументы з ЗША. Ідуць перамовы з Ваеннай акадэміяй у Вест-Поінце гэтай краіны, дзе ёсць музей Касцюшкі. Вядома, што па заданні Вашынгтона наш зямляк тут заснаваў крэпасць, якая пазней стала ваеннай акадэміяй. Чакаюцца дакументальныя матэрыялы і са Швейцарыі.

Выстава стала магчымай дзякуючы падтрымцы прадстаўніцтва галандскай фірмы “Філіпс” у Беларусі, беларуска-амерыканскага сумеснага прадпрыемства “Бевалекс”, кампаній “Тусон”, “Шварцфарма”, турысцкай фірмы “Сакуб-Халідэй” і іншых.

“Народная воля” паведамляла, што на адкрыцці выставы выступілі паслы ЗША Даніэл Спекхард і Швейцарыі Жан Аліўе Кенш. Спадар Хлабыстоў адзначыў, што на ўрачыстасцях прысутнічалі таксама пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс, Часовы паверань ў справах Чэхіі Душан Доскачыл, аташэ пасольства Францыі Філіп Жанцій, дырэктар Польскага інстытута Томаш Нягодзіш.

Яны агледзелі творы юных мастакоў, у якіх адлюстраваны амаль усе этапы і бакі жыцця Тадэвуша Касцюшкі. Афармленне экспазіцыі ажыццявіў мастацкі кіраўнік асацыяцыі Валерый Свістуноў. У адкрыцці выставы немалая заслуга дырэктара каледжа мастацтваў Людмілы Шахавай.

Пасля агляду экспазіцыі госці прысутнічалі на канцэрце, які давалі навучэнцы музычнага аддзялення каледжа. Вядома, што Касцюшка быў не толькі выдатнай асобай і палкаводцам, але і музыкантам. На канцэрце прагучалі не толькі творы, якія ствараюць вобраз той эпохі, але і паланез Касцюшкі. Бурнымі апладысментамі сустракалі слухачы кожны нумар. А пасол ЗША Даніэл Спекхард раз за разам скандзіраваў: “Брава!.. Брава!..”

Затым адбыўся абмен думкамі. Паслы ЗША і Швейцарыі адзначылі высокі прафесійны ўзровень юнацкай мастацкай творчасці і выказаліся аб наладжванні сувязей з замежжам. Пажадалі поспехаў маладым намеснік міністра культуры Валерый Гедройц, начальнік упраўлення Міністэрства адукацыі Мікалай Фяськоў і іншыя. Развітваючыся, адзін з гасцей сказаў: “Дзякуй! Вы падарылі мне цяпло Радзімы, напомнілі аб тым, што такое святыня памяці і як трэба любіць Бацькаўшчыну”. А другі зазначыў, што ён убачыў у творах маладых “Фарбы надзеі” і адчуў упэўненасць, што яны з гонарам панясуць эстафету сваіх продкаў.

**На здымках:** *на першым плане (справа налева) — паслы Швейцарыі Ж.Кенш, Вялікабрытаніі Д.Пірс, ЗША Д.Спекхард, начальнік упраўлення Міністэрства адукацыі М.Фяськоў;*

*ксёндз Уладзіслаў Завальнюк;*

*скульптура генерала Грына, пад кіраўніцтвам якога ваяваў у амерыканскай арміі Касцюшка.*

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

**Позиция**

# К вопросу о конституционном перевороте, или Спасение утопающих – дело рук самих утопающих

### (октябрьские тезисы оппозиции)

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

**Л.Маслюкова:**

**— Со времени последнего октябрьского заседания депутатов Верховного Совета 13-го созыва у меня перед читателями должок. Я не написала подробного отчета о заседании, и это не случайно. Шла на него со смутой в душе, и вышла с него в растерянности. При таком состоянии и людям ничего не объяснишь, только их запутаешь.**

**У меня накопилось к депутатам несколько вполне ясных вопросов, а интуиция мне подсказывает, что они примерно те же, какие назрели вообще у сторонников опальных защитников Конституции.**

**Уважаемые депутаты, что в перспективе вы способны свершить?**

**По силам ли вам стать реальной законодательной властью?**

**Способны ли вы организовать центр притяжения, в котором сфокусируется назревшее и назревающее недовольство попирающим закон режимом самых разных социальных слоев — от чиновника администрации президента и академика до деревенской бабки и городского бомжа?**

**Я только журналист, то есть в политике лицо не ответственное, стратегии конституционных переворотов не моего ума дело. Нельзя смешивать функции: действуют политики, а обозреватели об этом пишут, а не наоборот. Я лишь угадываю возникающую потребность широкой и постоянно расширяющейся оппозиции Лукашенко на что-то опереться. Под этим углом зрения я и оцениваю сегодня действия депутатов Верховного Совета 13-го созыва...**

**И что я вижу? Уж не обессудьте, Виктор, что видела, о том и читателям скажу без утайки.**

**В ходе заседания спикер Семен Шарецкий никак не заявил свою позицию в отношении заключения специальной комиссии. Но под его руководством был разработан проект постановления “собрания депутатов”, в котором черным по белому значилось: “принять к сведению” то, что в действиях президента “усматриваются признаки преступления”, а выводы специальной комиссии “считать предварительными”. Более “трусливый” документ и вообразить себе трудно... И это, что ли, и есть “позиция” председателя Верховного Совета?**

**Член Президиума Геннадий Карпенко явно был озабочен одним: чтобы его утвердили председателем Национального исполнительного комитета (НИК). Он получил эту должность, а потом выяснилось, что ни Белорусский народный фронт, ни грибовские, ни шушкевичские социал-демократы, ни коммунисты в него входить не намерены, в НИКе осталась все та же Объединенная гражданская партия.**

**Член специальной комиссии депутат Владимир Нистюк с трибуны заявил, что не желает порождать “еще одного Лукашенко”, явно имея в виду Виктора Гончара.**

**Лидер фракции коммунистов и член Президиума Сергей Калякин подчеркнул, что цели возглавляемой им партии не имеют ничего общего с задачами группы оппозиционных депутатов.**

**Было еще много чего удручающе мелочного, личностного, амбициозного, что опускаю как несущественное.**

**Для меня как для наблюдателя существенным было то, что развитие ситуации живо напомнило драматическую ночь с 21 на 22 ноября 1996 года, когда Семен Шарецкий и председатель Конституционного Суда Валерий Тихиня в присутствии Сергея Калякина, Геннадия Карпенко и Петра Кравченко подписали гибельное соглашение с президентом Лукашенко под давлением российских лукавых деятелей Виктора Черномырдина, Егора Строева и Геннадия Селезнева. Тогда, по общему теперь уже мнению, совершилось предательство импичмента, Верховного Совета, Конституции, законности. Не берусь никого осуждать за тот поступок или копаться в личных мотивах, но, как мне представляется, в основе драмы лежало неистребимое желание договориться с президентом, что в принципе невозможно.**

**Искали “компромисс” и теперь? К нему, похоже, опять склонялись, хотя теперь он мог означать лишь политическое самоубийство.**

**В конце концов Верховный Совет 13-го созыва принял “Политическое заявление” с двумя жесткими “гончаровскими” пунктами. Психологическая, если хотите, основа такого решения мне и сегодня не представляется надежной и прочной. Мне кажется, чуть чего — и снова отступят...**

**Но я отбрасываю сомнения и опираюсь на итоговый факт: политическая воля заявлена.**

**Быть может, окончательно усвоен горький предыдущий опыт и впредь депутаты уже не споткнутся на “компромиссах”?**

**Вам есть чем подкрепить эту надежду?**

**В.Гончар:**

### — Тезис третий. Никаких компромиссов с режимом.

С начала деятельности Верховного Совета 13-го созыва небольшая группа депутатов — Гончар, Лебедько, Знавец — не только постоянно предупреждали о бессмысленности и пагубности любых компромиссов с Лукашенко, но и доводили дело до скандалов, бойкотов, обструкций. Наш опыт быстро усвоили и другие депутаты, что позволило бескомпромиссному коммунисту Валерию Щукину бросить прямо в лицо Лукашенко то, что и должно было стать политической позицией Верховного Совета 13-го созыва во взаимоотношениях с президентом: “Не верьте, все равно обманет!”

Вдобавок к этому требовалось так мало. Не верить и следовать Конституции и законам.

Когда “распущенный”, но все же легитимный, не собирающий кворума, но признанный в мире Верховный Совет втянул Европу в трехсторонний “переговорный процесс” с президентом Лукашенко, то демократические структуры цивилизованных стран, простите за простонародное выражение, “сели в лужу” вместе с депутатами. Европейцам это простительно, они не имели нашего богатейшего опыта. Результат известен — полный трехсторонний провал.

А ведь, выражаясь понятным политическим языком, переговоры депутатов Верховного Совета с президентом при посредничестве Европейского Союза и ОБСЕ могли идти только о политической капитуляции Лукашенко.

**Л.Маслюкова:**

**— В последнее время, постоянно общаясь с читателями той же “Народной воли”, я улавливаю их разочарование любимым лозунгом оппозиции “Запад нам поможет”. Даже для них понятно, что в этой ситуации для оппозиции скорее годится лозунг: “Спасение утопающих — дело рук самих утопающих”.**

**В.Гончар:**

### — Тезис четвертый. Борьба за массы и поддержка населения.

Меня всегда поражало одно странное совпадение. Власть бесстыже и бесцеремонно использует забитость и информационное невежество населения, а оппозиция фактически подыгрывает этому, заявляя о своей немощи и о том, что на просвещение избирателей потребуются долгие-долгие годы.

Позвольте, уважаемые, за какие массы и за какое просвещение вы будете бороться в условиях полной диктатуры? Если “доносить” что-то до населения в таких условиях, то потребуется сто лет и три поколения. Не говоря уже о том, кто реально интересуется политикой, когда 80 процентов населения борется за выживание, а 15 — за нормальную жизнь. Им по большому счету наплевать, кто там и как воюет за власть, среди тех 5 процентов, которые называют себя элитой.

Белорусская элита!.. Ее роль состоит в том, что она должна, как и в любом другом государстве, определять настоящее и будущее страны. Поэтому, господа, станьте у власти, а потом просвещайте население. Для того, чтобы “просветить”, например, какой вред нанесли стране Лукашенко и его “поплечники”, потребуется три телевизионных передачи. И у людей откроются глаза, и притом очень широко! Нынешняя власть это знает, и потому мертвой хваткой держит в руках телевидение, и его нам никогда не отдадут...

Задача состоит не в том, чтобы просвещать всех и сразу, а в том, чтобы привлечь на свою сторону, собрать вокруг себя всех тех людей, которые в силу условий своей жизни еще могут что-то понимать и анализировать. Причем привлечь опять же не вообще, и не для махания флажками, а привлечь для решения конкретной задачи, о которой говорилось выше — отстранение конституционным путем от власти человека, который ведет страну в тупик.

Это особая задача. Вот здесь, как приличным конституционным “заговорщикам”, действительно нужна осторожность, полнейшее соблюдение законности, чтобы не оступиться, не сдать, не подставить людей.

И не думайте, товарищ Божелко, что оппозиция предоставит вам приятную для вас возможность квалифицировать такие заявления как призывы к насильственному свержению существующего строя. Достаточно действий в рамках законодательства. И не мечтайте, господа Кисель и Зимовский, что получите возможность заполошно верещать о депутатах, которые якобы зовут толпу к насилию.

Формы выражения протеста могут быть самые разные, но законные. Речь может, например, идти о том, что в один из дней сознательные избиратели организованно придут на разрешенную законом встречу с депутатами и выразят поддержку их законных действий, публично потребуют отстранения от власти тех лиц, кто не оправдал их доверия.

**Л.Маслюкова:**

**— Если организовать людей, то придут не пять тысяч и не пятьдесят, а все пятьсот. В Минске, как свидетельствуют социологические опросы, А.Лукашенко поддерживает лишь один из 20 жителей. В целом по Беларуси Александру Григорьевичу не доверяют 38,8 процента населения.**

**Сохраняется, конечно, и люмпен, ратующий за “батьку” и при этом ошивающийся у пивных ларьков, ничего не видя дальше горлышка бутылки и дна стакана.**

**Впервые в истории президентства Лукашенко опора его режима внутри страны начала размываться. И это проблема политиков, сумеют ли они воспользоваться этим шансом.**

**Конечно, и другими шансами, например, таким уникальным, как всеобщее признание Верховного Совета европейским сообществом и всеми влиятельными международными организациями.**

**В.Гончар:**

### — Тезис пятый. Поддержка Европы и России.

В этом контексте вывод очень прост: любая реальная власть будет иметь дело лишь с другой реальной властью. Если Верховный Совет не проявит себя как власть, он отойдет в политическое небытие и в ракурсе историческом сольется с Радой БНР, легитимность которой тоже не подвергалась и не подвергается сомнению.

Верховный Совет и объединенная вокруг него оппозиция смогут рассчитывать на действенную поддержку и Европы, и России лишь в том случае, если последние увидят в законном парламенте и реальную власть. Обретет Верховный Совет это качество, тогда будут и конфиденциальные переговоры, и аппаратные политические интриги, и договоренности о формах реальной поддержки, и согласование тактических шагов.

**Л.Маслюкова:**

**— Я пытаюсь спрогнозировать, как отнесутся ко всему здесь сказанному наши читатели. Согласятся? Возмутятся? Промолчат? Я рассчитываю, что на сей раз к тяжким этим размышлениям подключится по-настоящему широкая читательская аудитория. Все здесь сказано для людей, на их суд вынесено — за ними слово. Вообще говоря, решающее слово, как и должно быть. И больше всего меня интересует, испугает ли людей “захват” принадлежащей Верховному Совету законодательной власти, “переворот” ради торжества Конституции и неизбежное после решения Верховного Совета рассмотрение дела Лукашенко Верховным судом страны. Такие случаи в истории уже бывали, в том числе и в недавнем прошлом. Правда, с белорусами пока такого не случилось, люди ж у нас, как известно, “памяркоўныя”, и все стерпят, лишь бы, как говорится, "не было войны".**

**В.Гончар:**

### — Тезис шестой. Угроза гражданской войны и кровопролития.

Осенью 1996 года постоянно витала так называемая “угроза гражданской войны”. А война та существовала в трусливом воображении руководителей Верховного Совета и председателя Конституционного суда. Еще она “существовала” как пропагандистский трюк, который президент использовал для запугивания населения. Ну а третья форма существования “угрозы” — в головах оболваненного обывателя в худшем понимании этого слова.

И Верховный Совет отступил перед заревом мифического “массового кровопролития”.

Ну и что же?

Теперь, считаю, в республике идет необъявленная гражданская война. А как по-другому назвать ситуацию, когда президент Лукашенко одновременно борется и с депутатами, и с партиями, и с профсоюзами, и с банкирами, и с предпринимателями, и с собственной “вертикалью”, и с рабочими, и с деятелями культуры, и с российскими, и с белорусскими независимыми СМИ, и с международными противниками единения славянских народов, и с кукловодами Ельцина, а теперь и с самим старшим братом и большим другом Борисом Ельциным? А если добавить к этому обиды на богатую Европу, международный сионизм и какого-то там Билла Клинтона, оскорбляющего руководителя великой нации, то и тогда картина развернувшихся сражений будет далеко не полной.

А если собрать силу всех дубинок, обрушившихся на головы всех демонстрантов, энергию отчаяния и беспомощности людей перед властью, потоки хамства и уличной брани, извергаемые президентом и его приспешниками, море слез, пролитых матерями беззащитных мальчиков, брошенных в каталажки, — какое вам нужно еще кровопролитие? Или в республике, превращенной в одну общую палату, действительно найдутся сумасшедшие, которые вслед за Лукашенко поверят, что кто-то из белорусов будет защищать эту власть, стреляя и убивая друг друга?

Я уверен, что у нас нормальная страна и, за редким исключением, без душевнобольных политиков. И если Верховный Совет 13-го созыва будет действовать в рамках законов и Конституции, защищая своих граждан, то о каком кровопролитии может идти речь?

Что, наша армия или КГБ будут стрелять в народ? Неужели вы серьезно верите, что действительно боевой генерал Аголец, при всем его служебном рвении, отдаст приказ стрелять в людей? Я уже оставляю за скобками безумный и постыдный вопрос о том, кто стал бы исполнять такие приказы. Не надо так думать о наших армии и правоохранительных органах.

Если и есть проблема с “силовиками”, так она касается подразделений, входящих в так называемую службу личной безопасности президента. Учитывая, что их создание не предусмотрено никаким законом, на языке уголовного права они называются незаконными военными формированиями. Именно такое формирование Лукашенко вынужден был послать на операцию захвата Центризбиркома 15 и 16 ноября 1996 года. Те, бритоголовые в кожанках, действительно ни перед чем не остановятся. При реальном восстановлении конституционной законности и смещении Лукашенко только об этом и надо серьезно подумать.

**Л.Маслюкова:**

**— Я помню тех, в кожанках, на подступах к Центризбиркому. Когда в тот пиковый момент бритоголовые столкнулись с журналистами и депутатами, “вооруженными” диктофонами и мандатами, то на их лицах проступила растерянность. А их начальник и вовсе запинался со страху, забыл свое имя и звание, а только бессвязно бормотал: “Мы выполняем приказ президента”.**

**Противопоставь таким силу закона, просто любую организованную силу — и их пугающая воинственность обернется растерянностью и истерикой.**

**Поэтому меня не тревожит эта надуманная проблема, а мне интересно поведение в этой ситуации “армии” чиновников, которых сама идея отстранения от власти А.Лукашенко на основе закона может напугать до смерти.**

**В.Гончар:**

### — Тезис седьмой. Поддержка властных структур и капитала.

Как профессиональный управленец я хорошо знаю, что такое госаппарат. Наш отечественный бюрократ устроен таким хитрым образом, что в условиях любого обострения на его поддержку рассчитывать не приходится. Как, впрочем, и на так называемого (в этом контексте можно согласиться с выражением Лукашенко) “национального предпринимателя”. Чиновники, втянув голову в плечи, будут исполнять приказы, пока гром не грянет. Бизнесмены будут молчать даже тогда, когда государственные рэкетиры все выгребут у них из кармана. Они не то что помогать, они себя защитить не могут, и только попав в тюрьму, недоуменно спрашивают, как тот старый еврей в анекдоте о немецком концлагере: “Неужели я сижу за то, что всегда молчал?”

Но как только грянет гром и замаячит образ новой власти, и первые и вторые, что они демонстрировали уже сотни и сотни раз, побегут и будут бросаться, желая зацепиться за последний вагон, даже рискуя попасть под колеса.

Бог с ними, с такими союзниками и соратниками. После восстановления законности никто никого сажать и преследовать не будет. Уверен, что даже для главных организаторов антиконституционного переворота будет объявлена амнистия. Но пусть не думают те, кто будет отсиживаться до конца, что вновь будет на госслужбе, а не подпадет под закон о люстрациях, который, считаю, будет принят.

Лишь в том случае, если действия каждого соучастника беззакония получат правовую оценку, у общества будет гарантия, что это не повторится вновь при новом самоуправном президенте, слабовольном спикере, никчемном генпрокуроре, себялюбивом председателе Конституционного суда. Поэтому, господа госслужащие и бизнесмены, вовремя заскочите в вагон.

**Л.Маслюкова:**

**— По-моему, такой разговор как раз кстати в канун годовщины печально известного референдума, а точнее — своеобразного переворота. Скажу откровенно, у меня вновь появилась надежда.**

**Но повторяю вам, политикам: не заболтаете ли вы опять любую идею...**

**В.Гончар:**

— Принимается как итоговый октябрьский тезис оппозиции:

**ДЕЙСТВОВАТЬ, А НЕ БОЛТАТЬ.**

**Крымінал**

## “Колавыя гастралёры” сваё ад’ездзілі

Хоць афіцыйна перыяд службы ва ўзмоцненым рэжыме для органаў унутраных спраў завяршыўся, яны не дазваляюць сабе расслабіцца. Гэта адносіцца і да супрацоўнікаў транспартнай міліцыі.

Як падкрэсліў намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Упраўлення ўнутраных спраў на транспарце Вячаслаў Лойка, паспяховай аператыўна-службовай дзейнасці міліцыі часта дапамагае добрае ўзаемадзеянне з чыгуначнікамі. Многія супрацоўнікі патрульна-паставой службы добра ведаюць не толькі нашы, але і расійскія паязныя брыгады. Адзін з іх — старшына з Віцебскага АУСТ Станіслаў Кандратовіч.

Аглядаючы хуткі поезд № 50 Брэст — Санкт-Пецярбург, што прыбыў на станцыю Віцебск, ён атрымаў ад правадніцы “інфармацыю для роздуму”. Яна паведаміла, што адна маладая пара, якая ехала да канцавой станцыі, паводзіла сябе падазрона. Усю дарогу ад Мінска гэтыя хлопец з дзяўчынай распівалі ў купэ спіртное з двума спадарожнікамі. І раптам на пад’ездзе да Віцебска дзіўная пара папрасіла ў правадніцы свае білеты, сказаўшы, што ім трэба тэрмінова сысці. Пры гэтым пацікавіліся, якія ёсць бліжэйшыя паязды, прычым няважна, у якім напрамку.

Удакладніўшы прыметы падазроных пасажыраў, якія сышлі з поезда, Станіслаў хутка адшукаў іх у будынку вакзала і даставіў у дзяжурную часць міліцыі. Як аказалася, гэта непрацуючы і раней судзімы санкт-пецярбуржац і жыхарка Нар’ян-Мара Архангельскай вобласці. У кожнага пры аглядзе было знойдзена па 3100 долараў ЗША. На пытанне, адкуль у іх грошы, парачка давала блытаныя паказанні.

Міліцыянеры адшукалі ў поездзе і сабутэльнікаў затрыманых. Але дабіцца ад іх якіх-небудзь тлумачэнняў было немагчыма. Адзінае — праз п’янае трызненне яны ўпамянулі аб прапаўшых “баксах”.

Прыйшлося звярнуцца да расійскіх калег. З іх дапамогай на станцыі Навасакольнікі з поезда знялі пасажыраў, якія ўжо працверазіліся. Прыбыўшы ў Віцебск, яны дакладна назвалі суму валюты, што знікла ў іх у дарозе, і нават нумары банкнот.

“Колавых гастралёраў” чакае суд.

**Сяргей ЦІВАНАЎ.**

## Знесла курачка “яечка”. Доларавае

Смажаная курыца — традыцыйная “спадарожніца” нашых суграмадзян, якія адпраўляюцца ў дарогу. А адзін з жыхароў нашай рэспублікі вынайшаў арыгінальны спосаб “фаршыроўкі” гэтай птушкі, вырашыўшы выкарыстаць яе ў якасці... сейфа, у якім спрабаваў нелегальна правезці праз граніцу сем тысяч амерыканскіх долараў. Аднак работнікі мытні “Заходні Буг” гэту хітрасць разгадалі і “начынку” канфіскавалі.

Зрэшты, за апошнія дні гэта быў не адзіны выпадак утойвання валюты, якую спрабавалі незаконна вывезці за межы рэспублікі. Напрыклад, грамадзянін Польшчы выкарыстаў у якасці тайнікоў звычайны тэрмас і фары свайго аўтамабіля, схаваўшы ў іх звыш 26 тысяч долараў. З гэтымі грашамі парушальніку беларускіх законаў прыйшлося расстацца, супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

## І на граніцы адчуваецца подых зімы

Аб тым, што зіма набліжаецца, можна меркаваць не толькі па прагнозах сіноптыкаў. Усё часцей фіксуюцца выпадкі кантрабанднага ўвозу ў нашу рэспубліку футравых вырабаў, мытная пошліна на якія даволі высокая і складае 30 працэнтаў ад кошту вырабу. Вядома, “чаўнакі” спрабуюць любымі спосабамі ўхіліцца ад яе выплаты.

У поездзе Варшава—Варонеж супрацоўнікі Брэсцкай мытні раскрылі адразу тры выпадкі незаконнага ўвозу футравых вырабаў. У пасцельнай бялізне, падушках і міжстолевай прасторы яны знайшлі жаночыя шубы і скураныя курткі, падбітыя футрам, на суму 450 мільёнаў рублёў, а таксама кажухі, ацэненыя ў 180 мільёнаў рублёў. Уся гэта футравая кантрабанда была затрымана.

**Іван КУКСА, БелТА.**

